цана нумару 15 гр.

# ЗОЛАК

ОРГАН МАЛАДОЙ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ДУМКІ

Год IV Вільня, Чэрвень 1936 № 1 (7)



## Значэньне прапаганды сацыяльна-палітычных ідэй у беларускім руху

**(З нагоды апублікаваньня праграмаў „БНА" і „БНСП").**

Надыйшлі часы, калі крытычна думаючыя беларусы памалу прыходзяць да выснаўку, што галоўным недахопам сучаснага беларускага руху ёсьць адсутнасьць моцных палітычных партый, цесна зьвязаных з шырокімі народнымі масамі. Праўда, да гэтага выснаўку змусіла нас ня што іншае, як наша распачлівая сытуацыя.

Каму толькі з беларусоў ня прыходзілася сьцьвярджаць слабую й павярхоўную сьведамасьць нашых масаў, зусім слабую стойкасьць нашай інтэлігэнцыі?! Каму ня прыходзілася канстатаваць, што большасьць нашае студэнскае моладзі мае запал да грамадзкае працы толькі да тае пары, пакуль ня скончыць унівэрсытэту?!. Па сканчэньні-ж вышэйшае школы, гэтая моладзь на ўсё пераважна махае рукою і... расплываецца ў „вялікім польскім моры".

Усё гэта толькі зломкі сумных праяваў нашай сапраўднасьці, якія, аднак, голасна клічуць да рашучае барацьбы за ліквідацыю падобных недахопаў. Але нам здаецца, што мы ня шмат чаго змаглі-б дасягнуць, калі-б толькі зьвярталі увагу беларускага чытача на недахопы нашага руху, усьцяж толькі кідалі заклікі да іх пазбыцьця. Мы перакананы, што пры падобнай, на‘т самай шырокай, прапагандзе ня шмат болей было-б асягнута, чымся маемо цяпер. Каб увідавочніць гэты мамэнт, зьвернем увагу хоць-бы на беларускую хадэцыю (цяпер — „Беларускае Народнае Аб‘еднаньне"). Гэтая арганізацыя ў беларускім руху вядзе працу ўжо не адзін і ня два гады, мае яна і такія-сякія матарыяльныя магчымасьці, аднак, ня гледзячы на ўсё гэта, вынікаў яе працы нешта мала відаць. Дапусьцім, што матарыяльныя магчымасьці „Бел. Нар. Аб‘ед." нейкім цудам павялічыліся-б у два, у тры, або й больш разоў, павялічыліся-б адпаведна і іх выданьні кніжак, часапісяў і, запытайма сябе, што ў выніку гэтага сталася-б з беларускім рухам. Ці ён, адпаведна разросту магчымасьцяў хадэцыі, параўнальна таксама разьвіўся-б? Калі мы аб‘ектыўна адняёмся да справы, дык павінны будземо сьцьвердзіць, што й пры та-

кіх умовах беларускі рух нічым не адрозьніваўся-б ад яго сучаснага стану. Праўда, было-б мо' заместа адной кантычкі — дзесяць, заместа аднаго „Хлапца" — шмат больш яму падобных і г. д., але нічога болей. У чым-жа палягае прычына? Мо' беларускі народ не такі, як іншыя народы, што выйшлі з заняпаду свайго гістарычнага жыцьця, або можа наш народ наагул няздольны да творчае працы? Нічога падобнага. Беларускі народ такі самы, як і кожны іншы малаасьвечаны народ. У слабой актыўнасьці, у адсутнасьці жаданьня і спробаў асягненьня лепшага будучага яго нельга вінаваціць. Наш селянін ня раз ужо паказаў, што ён шмат на што можа адважыцца ў абароне сваіх інтарэсаў. І не слабую актыўнасьць ў яго прыходзіцца сьцьвярджаць, але адсутнасьць *арганізаванасьці.* Арганізаванасьць-жа народу паўстае як вынік яго культурнасьці, калі ў народзе знаходзіцца пэўная колькасьць арганізуючага элемэнту — *інтэлігэнцыі.* Вось-жа не ў народзе самым трэба шукаць прычынаў слабасьці беларускага руху, а ў яго інтэлігэнцыі. І тут мусіма сьцьвердзіць, што наша інтэлігэнцыя ёсьць ня толькі колькасна малою, але не стаіць яна на вышыні сваіх заданьняў і якасна. Праз увесь час свае грамадзкае працы яна ня толькі не змагла стварыць моцныя сацыяльна-палітычныя і інш. арганізацыі, жыцьцёва-неабходныя для нармальнага разьвіцьця беларускага руху, але па нясьведамасьці яна часта нішчыла й тыя асновы, на якіх-бы маглі быць збудаваны гэныя арганізацыі, асновы, якія ў свой час з вялікімі натугамі былі закладзены лепшымі сынамі працоўнага народу.

І дзіўная рэч, сёньня, пасьля шматгадовага разьвіцьця беларускага руху, пасья фэерычных, у нек. мамэнты, яго праяваў,—сёньня прыходзіцца вяртацца да будовы асноваў гэтага руху! Як на характэрную рэч ў гэтым адношаньні, трэба перадусім зьвяруць увагу на распачатае ад пэўнага часу „тэарэтызаваньне" на бачынах газэт і часопісаў. Гэта ня ёсьць тэарэтызаваньне толькі для тэарэтызаваньня, але для канрэтных карысьцяў, — перадусім для афармленьня і ўгрунтаваньня пэўных сацыяльна-палітычных сыстэмаў. Гэта, рэч ясная, ёсьць ужо вымоўным сьведчаньнем аб культурным росьце нашага руху.

Без стварэньня сацыяльна-палітычных сыстэмаў, — ідэалёгій, — беларускі рух ніколі ня зможа стаць на уласьцівы шлях, ня зможа стацца тым, чым у засадзе павінен быць. На нашу думку, толькі тагды беларускі рух змог-бы памысна разьвівацца, калі-б сярод нашых працоўных масаў належным спосабам прапагавалася такая ідэалёгія, якая-б, па-першае, сваім сацыяльна-палітычным зьместам цалком адказывала інтарэсам гэтых масаў, калі-б гэтая ідэалёгія сваею этычнай асновай і шырокім размахам закрэсьленае ёю сацыяльнае творчасьці магла-б захапіць найбольш выдатныя й найбольш перадавыя элемэнты нашага народу.

Што гэта ёсьць так, а ня йначай, можна пераканацца на пашырэньні ў нас бальшавіцкай ідэалёгіі. Хоць яна далёка не адказывае жаданьням і патрэбам беларускага селяніна, хоць апошні добра ведае, што бальшавіцкая партыя не адзін раз і не абы як нішчыла сялянства (рэквізыцыі, прымусовая калектывізацыя ў Саветах), хоць таксама ведае аб варожым адношаньні бальшавізму да сялянства, як сацыяльнае клясы, аднак, ня гледзячы на ўсё гэта, у шмат каго спасярод сялян засталіся, усё-ж-такі, даволі моцныя сымпатыі да бальшавізму. У чым-жа тут справа? Справа палягае ў тым, што баль-

шавізм дамагаецца зьмены сучаснага капіталістычнага ладу на такі, пры якім ня было-б ні багатых, ні бедных. Коратка кажучы, у бальшавіцкай праграме, хоць і ня зусім адказываючай ідэалам працоўнага сялянства, захапляе апошняе сацыяльны зьмест. Аднак бальшавізмам захапляецца ня толькі сялянства, але і пэўная частка інтэлігэнцыі, якую ня можа здаволіць толькі адзін сацыяльны бок праграмы. Трэба прызнаць, што інтэлігэнцыю прыцягівае да бальшавізму яго філязофская сыстэма, як і яго палітычна-эканамічнае вучэньне.

Бальшавізм апіраецца на эканамічнай тэорыі К. Маркса г. зв. гістарычным матэрыялізьме. Марксызм вучыць, што эканамічныя працэсы адбываюцца незалежна ад людзкога жаданьня, што йдуць яны па лініі канцэнтрацыі капіталу з аднаго боку і сталага павялічэньня пралетарыяту — з другога. Нарэшце, паводле К. Маркса, у гэтым працэсе мае прыйсьці такі мамэнт, калі пралетарыят на столькі стане моцным, што без асаблівай затраты сілаў лёгка зможа зьнішчыць капіталістычны лад, заводзячы на яго мейсца сацыялістычны. Суцэльнасьць сац.-палітычнай сыстэмы К. Маркса уплывае й захапляе ня толькі фабрычнага работніка, на якога перадусім і разьлічана, але таксама і сялянства, інтэлігэнцыю. Праўда, у практычным застасаваньні бальшавікі інтэрпрэтуюць тэорыю Маркса зусім сваеасабліва. Усупярэч Марксу, у якога на ўсё ёсьць свой час, бальшавікі стараюцца азначаныя ім працэсы прысьпяшыць нават насільным спосабам, нават супраць волі й жаданьняў працоўных мас (дыктатура, прымусовая калектывізацыя і г. д.). І калі паміма ўсяго гэтага бальшавізм у нашых абставінах пашыраецца, дык яшчэ і дзеля тае простае прычыны, што сярод нашых працоўных масаў не працуе ніякая іншая беларуская сацыялістычная партыя Стварэньне апошняй — гэта неадзоўная справа нашых дзён, бо-ж яе ня могуць заступіць ані бальшавікі-камуністы, ані іншыя бел. палітычныя угрупаваньні, як „хадэцыя“, або бел. нац.-сацыялісты.

„БХД“ ў апошнія часы пачала называць сябе „Народным Аб'яднаньнем“. Трэба прызнаць, што праграма „Н.А.“ апіраецца на ідэалёгіі ня менш навукова угрунтаванай, чымся бальшавіцкая. Ідэалёгіяй „Нар. Аб'еднаньня“ ёсьць *буржуазны дэмакратызм.* Апошні мала таго, што мае за сабою вялікі шэраг выдатных тэарэтыкаў, але можна цьвердзіць, што і ўся пануючая сёньня эканамічная веда стаіць уласьне на тых самых засадах, што й буржуазна-дэмакратычнае вучэньне. Асновай яго ёсьць *палітычная свабода* з аднаго боку і *сьвяшчэннае права прыватнае ўласнасьці* — з другога. Права прыватнай уласнасьці на капіталы, зямлю, варштаты і прадметы спажываньня гэтая тэорыя выводзіць з засады, якая кажа, што найвялікшым і найдасканальнейшым рухавіком гаспадарчай дзейнасьці зьяўляецца *прыватная ініцыятыва*, і якая можа быць толькі пры істнаваньні права прыватнай уласнасьці. Таму ўсё, што абмежвае прыватную ініцыятыву, ці хоць-бы зьдзержвае яе размах, павінна быць выдалена з грамадзкага жыцьця. Абмежваньні прыватнай ініцыятывы могуць быць толькі ў крайнім выпадку, калі яна ўжо выразна пачынае шкодзіць грамадзянству, як суцэльнасьці. А тое, што пры панаваньні прыватнай ініцыятывы ў самы жорсткі спосаб вызыскоўваецца чалавек чалавекам, адна сацыяльная кляса другою, дык, паводле буржуазных тэарэтыкаў, такія зьявішчы ёсьць зусім натуральнымі, — яны выплываюць з сутнасьці прыроды здаровага чалавека і найпаўней, і найлепш вы-

карыстоўваюць прадукцыйныя сілы грамадзянства.

Ня гледзячы на тое, што буржуазны дэмакратызм ёсьць вельмі стройным вучэньнем, што яго ўзасадняе ўся сёньняшняя веда, БНА не адважваецца адкрыта прапагаваць поўнасьцью сваю ідэалёгію дзеля таго, што баіцца страціць і тую невялічкую колькасьць сваіх прыхільнікаў, якіх мае, бо беларускі селянін усё, што толькі паходзіць з буржуазнага лягеру, проста ненавідзіць. Таму БНА і высоўвае на паказное мейсца той пункт свае праграмы, дзе гаворыцца, што зямля належачая цяпер да абшарнікаў, павінна быць перададзена сялянам бяз выкупу. Калі гэты пункт узяць зусім асобна, дык можна падумаць, што БНА-цы — амаль не сацыялісты. Але ня трэба забываць, што да гэтага пункту ў праграме БНА ёсьць агаворка, якая выясьняе, што ад абшарніцтва выкупіць зямлю дзяржава і перадасьць яе сялянству ізноў-жа на *ўласнасьць.* Гэткае вырашэньне праблемы не зьмянае сутнасьці і тае простае рэчы, што ўсё роўна селянін павінен будзе сплаціць паном за зямлю, хоць ня шляхам простага выкупу, дык звышанымі падаткамі, бо ў аграрнай краіне пры буржуазным ладзе ўвесь цяжар падаткавай сыстэмы кладзецца перадусім на плечы селяніна.

Праўда, некаторыя маладыя сябры БНА апошнім часам падымаюць голас, каб выкінуць з праграмы тое мейсца, дзе гаворыцца аб выкупе ад абшарніцтва зямлі дзяржавай, дый што, маўляў, зямлю ніхто не павінен выкупляць. Усё гэта было-б вельмі добра, калі-б усе рэчы былі так простыя, як яны выдаюцца маладым БНА-цам. Бязумоўна, можна ўсю зямлю перадаць працоўнаму сялянству бяз выкупу, але толькі пры ўмове, што наагул будзе зьнесена прыватная ўласнасьць на сродкі вытвару. Калі-ж у праграме БНА права прыватнай уласнасьці ў засадзе прызнаецца непарушным, дык няма ніякай падставы адбіраць зямлю ад абшарнікаў бяз жаднага для іх эквіваленту. Во-ж дзе лёгіка — пазбаўляць адных уласнасьці (зямлі) бяз ніякае нагароды, а другім падобную ўласнасьць (фабрыкі, капальні й іншыя капіталы) пакідаць?! Калі мы хочам, каб закон быў законам, дык ён павінен быць агульнаабавязуючы. Зусім што іншае было-б, калі-б мы мелі свае выразныя буржуазныя клясы, — тагды БНА-цы маглі-б без асаблівага намыслу адкрыта прыступіць да прапаганды сваіх буржуазна-дэмакраычных ідэй дый наагул пастунаць так, як ім падсказывала-б іх буржуазнае сумленьне. Тагды ім ня было-б асаблівае патрэбы даражыць сымпатыямі працоўнага сялянства, — яны-б мелі моцнае апірышча сярод мяшчанска-буржуазных клясаў. Але пры сучаснай сацыяльнай структуры нашага народу, аб шырокім пасьпеху такіх партыяў як БНА й гутарыць ня прыходзіцца. Сучасны сацыяльна-эканамічны лад, нават прыхарошаны паводле рэцэпту БНА, нашага селяніна, работніка і працоўнага інтэлігэнта здаволіць ня зможа. Наш працоўны народ жадае поўнае сацыяльнае перабудовы на справядлівы лад, лад сацыялістычны.

Апрача БНА ня так даўно выступілі ў нас з сваею праграмаю і г. зв. беларускія нац.- сацыялісты. Адносна іх праграмы можна сказаць, што з лягічнага боку яна зусім не выдзержывае крытыкі. Нацыяналізм і сацыялізм ніяк нельга злучыць у адно цэлае: яны ўзаемна выключаюцца. Нацыяналізм ставіць сваей задачай *дабро нацыі*, як суцэльнасьці, бяз увагі на гэта, ці сацыяльны лад ёсьць справядлівы, ці не. Звычайна пад словам нацыя разумеццца такі народ, які мае сваю ўласную дзяржаву, або імкнецца да яе здабыцьця, таму

нацыяналісты інтарэсы нацыі і дзяржавы ўважаюць за адно, кажучы, — „усё для дабра дзяржавы".

Зусім што іншае прадстаўляе сабою сацыялізм. Ён калі й прызнае дзяржаўную форму арганізацыі, дык толькі як неабходнае зло, бо ўважае дзяржаву, нават самую лепшую, за прымус і гвалт. Заданьнем сацыялізму ў першую чаргу ёсьць не ўзбагачэньне і ўзмацненьне дзяржавы ці нацыі, як суцэльнасьці, але перадусім асягненьне дабрабыту й сацыяльнай роўнасьці для ўсіх грамадзян без выключэньня. Ведама. што багацтва нацыі, або дряржавы не заўсёды йдзе ў пары з дабрабытам грам. У магутных краінах, побач з багацьцем знаходзіцца страшэнная галеча! Можа дзе-хто каротказоры моггбы даводзіць магчымасьць сужыцьця сацыялізму з нацыяналізмам на прыкладзе Нямеччыны. Аднак фактам ёсьць таксама і далейшае існаваньне там сацыяльнай раздвоеннасьці. Не даказывае гэтага й тое, што нямецкія рабочыя масы пайшлі ў значнай меры за нац-сацыялістамі. Нямецкі работнік ясна бачыў, што з нацыяналістычнымі партыямі яму не падарозе. З другога боку гэты самы работнік хаваў злосьць і супраць дзяржаваў Антанты, уважаючы іх крыніцаю ўсіх злыбедаў нямецкага пралетар'яту. Адным з жаданьняў нямецкіх працоўных масаў было, як найхутчэй пазбыцца ўсіх абавязкаў, якія ўскладаў на Нямеччыну Вэрсальскі Трактат, ня спыняючыся на'т перад самымі рашучымі сродкамі, хоць-бы й новай вайной. Вясьці-ж справу да новай вайны нямецкія сацыялісты ніяк не маглі і, зразумела, не маглі ў дадзеным выпадку канкураваць з гітлероўцамі. Гітлерызм спрытна выкарыстаў хвілёвы ўздойм нацыяналізму, які вытварыўся ў масах ў выніку ненармальных узаемаадносінаў пасьляваеннай Эўропы. Каб дагадзіць масам і ямчэй пацягнуць іх за сабою, гітлерызм пастараўся свой нацыяналізм разбавіць дэмагогіяй сацыяльнага радыкалізму, злоўжываючы й сацыялізмам. Не малую дапамогу для гітлерызму дала і заядлая варажнеча паміж двума галоўнымі сацыялістычныі лягерамі—ням. сацыял-дэмакратыяй з аднаго боку і нямецкімі камуністамі — з другога. А дзеля таго, што міжнародны сацыялізм ёсьць самым рашучым ворагам якіх-бы ня было ваенных авантураў, гітлерызм сваю заалягічную ненавісьць да нямецкіх сацыялістаў перанёс на ўвесь міжнародны сацыялізм. Ставячы свой народ-нацыю па-над усё іншае, гітлерызм хавае ў сабе магчымасьці азброеных канфліктаў, войнаў. Вайна-ж нічога апрача шкоды, ніколі ня прыносіла рабочым масам, на'т і пры перамозе. Гэта вельмі добра адчулі пасьля сусьветнае вайны як пераможаныя, так і пераможцы. Дык да чаго імкнуцца нашы дамарошчаныя гітлераўцы яны, праўдападобна. й самі ня ведаюць! Ствараць у народзе настроі зьвярынага нацыяналізму, гэта штурхаць яго ў бок ваенных завірухаў. А наш працоўны народ шмат ужо выцярпеў ад войнаў, што хвалямі пераліваліся праз яго гоні. Таму, з усею рашучасьцю адкідаючы ваюючы наыяналізм, а дзейна становячыся ў арганізаваныя рады міжнароднага сацыялізму, беларускі селянін, работнік і працоўны інтэлігэнт, хоць мо' павольна, але няўхільна, набліжалі-б той час, калі немагчымымі будуць войны паміж народамі, гвалты адных над другімі.

З усяго вышэйсказанага вынікае, што ані БНА, з яго буржуазным дэмакратызмам, ані тым-больш нац.-сацыялізм у нашых умовах ня маюць ніякіх падставаў да разьвіцьця. З належным крытыцызмам трэба аднесьціся і да трэйцяга сац.-палітычняга чыньніка, дзеючага

на нашых абшарах, — да бальшавізму. Бальшавізм, як радыкальны сацыялістычны напрамак, мог-бы прынесьці значную карысьць беларускім працоўным масам, але пры ўмове, што адмовіўся-б перадусім ад дыктатуры, як сыстэмы арганізацыі грамадзкага жыцьця, ад накіданьня гвалтам такіх формаў жыцьця, якія не выплываюць ані з псыхікі грамадзянства, ані з яго культурна-гаспадарчага стану. Бальшавізм ёсьць не да прыняцьця нашым працоўным масам яшчэ й дзеля таго, што ён сваю праграму дзейнасьці будуе ў інтарэсах фабрычнага пралетар'яту, уважаючы працоўнае сялянства дробнай буржуазіяй. Паміма ўсяго гэтага, сёньня ў нас бальшавізм на першы плян свае дзейнасьці ставіць ня справу тутэйшых працоўных масаў, ці хоць-бы тутэйшага пралетар'яту, а праводзіць перадусім замежную палітыку савецкай дзяржавы. Такое узалежненьне дзейнасьці нашых працоўных масаў уносіць у шэрагі апошніх расклад, няпэўнасьць у свае сілы і ў ніякім выпадку не спрые набліжэньню мамэнту рашучае барацьбы з сацыяльным засільлем.

У мэтах рацыянальнага выкарыстаньня ўсіх сацыяльных сілаў нашае аграрнае краіны, іх суцэльнае каардынацыі, — трэба рашуча й раз на заўсёды парваць з падзелам працоўнае клясы на лепшых і горшых, на здольных да будаваньня сацыялістычных асноваў жыцьця (фабрычны пралетар'ят — носьбіт сацыялізму) і яго толькі дапушчальных памагароў (працоўнае сялянства). Будаўнічымі новага лепшага ладу могуць і павінны быць усе пласты працоўнага народу: працоўнае сялянства ў такой-жа меры, як пралетар'ят, як і працоўная інтэлігэнцыя. У сувязі з гэтым не павінна-б мець мейсца і партыйная дыктатура, як спосаб арганізацыі, а зamеста яе найбольш адпаведнай формай была-б сыстэма працоўнай дэмакратыі. *Л. С.*

---

## Чыстка ў кампартыі БССР

Толькі нядаўна павялося нам выкарыстаць бальшавіцкія справаздачы аб апошняй чыстцы кампартыі БССР. Апошняя чыстка, як далейшая звень у ланцугу ўмацаваньня імпэрыялістычна-цэнтралістычнай палітыкі бальшавікоў на Ўсходзе Эўропы, зьвяртае на сябе ўвагу ня толькі матывамі, але і сваімі разьмерамі.

Паводле справаздачы Д. Валковіча, аднаго з сэкратароў КП(б)Б, выяўляецца, што па ўсей КП(б)Б выключана членаў 15,4% і 20,5% кандыдатаў, а ўсяго 16,9%*). Пры чыстцы ў 1933 г. таксама было выключана каля 17%, але пасьля, у працэсе апэляцыі адноўлена прыблізна 3—4% Прыведзеныя лічбы выключаных пры апошняй чыстцы не абыймаюць транспарту. Па чыгуначных партыйных арганізацыях 5-х палітаддзелаў выключана 23,2% членаў і 33,8% кандыдатаў а ўсяго 26%. Такія высокія лічбы выключаных могуць сьведчыць, з аднаго боку аб мілітарна-паліцэйскім узмацаваньні бальшавікоў, а з другога — аб дасюлешнім унутры-партыйным укладзе бальшавіцкіх сілаў. І нам здаецца, што ня ў выніку нядбальства прайшоў чужа-родны элемэнт у бальшавіцкую партыю, як гэта здаецца марыянэтачнаму сэкратару ЦК КП(б)Б Д. Валковічу, але дзякуючы макіявэляў-

*) „Бальшавік Беларусі“, Менск, люты, 1936, № 2. бач. 21—39.

скай палітыцы ўзапраўдных кіраўнікоў РКП(б) — Леніна і інш. Паставіўшы сабе заданьне — за ўсялякую цану здабыць уладу б. расійскіх цароў у свае рукі, бальшавікі ў практыцы змушаны былі ў свае шэрагі прыймаць на'т і б. сваіх ворагаў-беларускіх, украінскіх, рускіх дый іншых б. сяброў сац.-дэмакратычных і эсэраўскіх партый. Паскольні гэткая тактыка бальшавікоў у першыя годы пасьля кастрычніцкай рэвалюцыі была мэтазгоднай, найлепшым сьцьверджаньнем можа быць іхні саюз з украінскай партыяй „барацьбістаў". У выніку гэтага саюзу бальшавікі змаглі здабыць сабе доступ да украінскай вёскі, украінскага работніка і інтэлігэнта. Больш-менш аналягічная тактыка была і сярод іншых нацыянальнасьцяў б. расійскай імпэрыі. Гэтыя намаганьні рускіх бальшавікоў знайсьці апору для сваей дзейнасьці сярод розных „инородцев" у іх сацыялістычных арганізацыях, у інтэрпрэтацыі Н. Ф. Гікало, яшчэ аднаго з сэкратароў ПК КП(б)Б, атрымлівае зусім адменнае тлумачэньне. Паводле яго справаздачы

„распрацоўка раду матарыялаў у сувязі з праверкай партдакумэнтаў у кампартыі Беларусі паказала, што яшчэ ў першыя годы рэволюцыі, калі КП(б)Б арганізацыйна толькі аформілася, а сілы ўсей партыі накіраваны на арганізацыйную перамогу ў грамадзкай вайне, контррэвалюцыйныя, дробнабуржуазныя нацыяналістычныя партыі прасунулі ў наш савецкі апарат і ў рады камуністычнай партыі цэлыя групы сваіх людзей для вядзеньня падрыўной контрэвалюцыйнай работы *). — Тактыка двурушніцтва становіцца аднэй з форм барацьбы нацыяналістычных контррэвалюцыянэраў супраць савецкай улады. Адзін з віднейшых прадстаўнікоў беларускай нацыяналістычнай контррэвалюцыі, Ігнатоўскі, эсэр з 1904 году, удзельнік Яраслаўскага паўстаньня, у далейшым раскрыў прызначаньне гэтай тактыкі. — „Я прызнаю, што з мамэнту ўступленьня ў партыю я вёў двайную палітычную ігру ў інтарэсах ажыцьцяўленьня ідэалаў беларускай контррэвалюцыйнай інтэлігэнцыі. Іменна выходзячы з гэтага, я напярэдадні ўступленьня ў бальшавіцкую партыю ўмовіўся з віднейшымі лідэрамі нацыянал-дэмакратычнага руху, маімі прыяцелямі па эсэраўскай партыі, у прыватнасьці з Крэчэўскім Пятром, перад яго уходам з Менска за кардон, што на розных палітычных вучастках, дзе мы будзем працаваць, дапамагаць таржаству агульнай беларускай справы. Таму я сьцьвярджаю паказаньні Цьвікевіча, што я з Крэчэўскім разышліся па форме: „Ты ідзі працаваць для Беларусі на захад, а я пайду працаваць на ўсход". Таксама сьцьвярджаю наступнае мейсца з паказаньняў Цьвікевіча, якое ён чуў заграніцай ад маіх палітычных прыяцеляў па эсэраўскай партыі. — „Калі мы пакідалі Менск, то Ігнатоўскі гаварыў нам: „Нічога хлопцы, мы будзем тут лаяць вас, а вы заграніцай лайце нас, а ад гэтага агульная беларуская справа толькі выйграе".

Мы ня маемо ніякіх дадзеных ні прыймаць, ні адкідаць прыведз. словы нябошчыка праф. Ул. Ігнатоўскага. Калі-ж яны, аднак, і мелі мейсца, дык сьведчылі-б толькі аб яго шырокім аб'ектывізьме і глы-

*) Справаздача Н. Ф. Гікало пн. „Урокі праверкі ў беларускай партарганізацыі" перадрук. ў „Зьвязде" (№67 з 23.III.) з ч. „Парт. Строительство" (№5 1936).

бокім разуменьні мэтодаў ажыцьцяўленьня беларускага вызвальна-адраджэнскага руху. Сваею дзейнасьцю на полі арганізацыі беларускіх навуковых і культурна-асьветных установаў ў БССР (Бел. Акадэмія Навук, Унівэрсытэт дый інш.) Ігнатоўскі ў значнай меры спрычыніўся наагул да паглыбленьня і ўзмацаваньня бел. руху. Культурны рост бел. руху ў БССР ёсьць адначасна ростам і сацыяльна-палітычнай сьвядомасьці масаў, а згэтуль, уласна, і выплывае загостраньне антаганізмаў паміж цэнтралістычнай палітыкай рускага бальшавізму і жыцьцёвымі патрэбнасьцямі паняволеных ім нацыянальнасьцяў. Таму чыстка КП(б)Б ёсьць нічым іншым, як толькі расправай з культурным і сац.-палітычным беларускім рухам у межах БССР. Гэты мамэнт у справаздачы Н. Гікало аб чыстцы КП(б)Б ілюструецца цэлым шэрагам прыкладаў.

„Праверка партдакумэнтаў у кампартыі, — піша Гікало — паказала, што ў радзе выпадкаў выхадцы з дробна-буржуазных нацыяналістычных партый, пралазячы у КП(б)Б, залічалі ў свой партыйны стаж прабываньне ў тых партыях Сваю контррэвалюцыйную дзейнасьць — а ў радзе выпадкаў і свой контррэвалюцыйны удзел у барацьбе супраць савецкай улады — яны выдавалі за партызанскі камуністычны рух. У радох КП(б)Б, такім чынам, аказаліся людзі, якія лічылі за сабой у якасьці рэвалюцыйных заслуг рад гадоў яўна контррэвалюцыйнай дзейнасьці. — Яркім прыкладам у гэтых адносінах можа служыць ускрытая ў ходзе праверкі партдакумэнтаў так званая „Капыльская Справа". У Капылі да канца 1919 году існавала моцная эсэраўская арганізацыя. У кіруючы склад гэтай арганізацыі уваходзілі і манархічныя элемэнты(?). Пасьля адыходу палякаў гэта арганізацыя стала выдаваць сябе за бальшавіцкую. — Каб лягчэй пранікнуць у рады бальшавіцкай партыі, эсэры жульніцкім шляхам абвяшчалі сябе чырвонымі партызанамі. Між тым эсэраўскія дружыны, якія гэтымі людзьмі выдаваліся за партызанскія арганізацыі, вялі контррэвалюцыйную работу супраць савецкай улады. Кіраўнікі эсэраўскай арганізацыі ў Капылі ў далейшым атрымалі партбілеты (шляхам узаемнай рэкамэндацыі), прабраліся на кіруючую работу: Чарнушэвіч — у якасьці нам. дырэктара Інстытута мовы Беларускай Акадэміі Навук; Гурло — дырэктарам Інстытута народнай гаспадаркі; так-жа сама частка з іх прабралася ў наркамасьветы".

У справаздачы сэкратара капыльскага РК КП(б)Б А. Штэйнгарта знаходзімо, што казус з „капыльскай справай"

„здарыўся ў выніку кругавой парукі, згуртаванасьці былых эсэраў-капыльчан, якія, прыкрываючы адзін другога і выдаючы даведкі аб партпрыналежнасьці і „падпольнай рабоце" прабраліся ў рады нашай партыі і занялі кіруючыя пасады ў цэнтральных установах (Чарнушэвіч Зьмітрок, Гурло Аляксей). — Іх антыпартыйная дзейнасьць пацьвярджаецца наступнымі фактамі: Чарнушэвіч Зьмітрок — былы сэкратар ЦБК БССР — у сучасны момант працуе у БАН, пад напорам пераканаўчых фактаў прызнаў сваю прыналежнасьць да партыі эсэраў, але для таго, каб працягваць і ашукваць кампартыю, арганізаваў кампанію супраць праверкі партдакумэнтаў. Праз грамадзяніна м. Капыль Малюкевіча ён перадае Чарнушэвічу Рыгору: „я рас-

крыў сваю прыналежнасьць да эсэраўскай партыі, прызнаўся, але заявіў, што мы ўступілі ў эсэраўскую партыю з мэтай яе разлажэньня, таму Вы ведайце, што сказаць, калі ў вас там спытаюцца". Гэты факт з поўнай відавочнасьцю паказвае, чаму былыя эсэры маглі доўгі час беспакарана ашукваць нашу партыю.*)

Адначасна засталіся дакранутымі „чысткай" — намесьнік наркома Ляшчынскі, школьны сябра Чарнушэвіча; дырэктар Інстытуту павышэньня кваліфікацыі настаўнікаў — Зінковіч (з Узьдзеншчыны, Случчына); Слаўковіч — начальнік мэтадычнага Бюро НКА; Лаўрыновіч — актыўны эсэраўскі дзяяч Случчыны, які начальствуе ў кіраўніцтве дзіцячымі дамамі, будучы у свой час загадчыкам таго аддзелу наркамасьветы, у якім Ляшчынскі зьяўляўся загадчыкам сэктара мастацтва.

„Так падбіраецца ў апарат наркомата кампанія слуцкіх эсэраў і нацдэмаў. З іх-жа камплетуецца і кіраўніцтва найбольш важнымі ўчасткамі на пэрыфэрыі. Зінюк — былы член нацдэмаўскай арганізацыі з Случчыны (Капыль), становіцца дырэктарам Аршанскага пэдтэхнікума. Дырэктары барысаўскага пэдтэхнікума, узьдзеньскай сямігодкі і шмат іншых вузлавых асьветных установаў выкрыты зараз, як былыя удзельнікі эсэраўскіх і нацдэмаўскіх арганізацый на Капыльшчыне".**)

Уважаем, што для характэрыстыкі „чысткі" хопіць і пададзеных фактаў. Пры гэтым нельга не зьвярнуць увагі на той мамэнт, што ў „чыстцы" беларускіх культурнікаў, побач з адпаведнымі партыйна-дзяржаўнымі чыньнікамі прыняў актыўны ўдзел і Інстытут Філязофіі Бел. Акад Навук. Гэты Інстытут Філязофіі, распачаўшы ўскрываць ідэалёгію беларускіх культурнікаў у БССР, часта спрычыняючыся да высылкі іх „в места несголь отдаленные", адначасна выявіў сябе пляцоўкай рускага вялікадзяржаўніцтва. Праўда, апошні мамэнт С. Вальфсон стараецца злагодзіць, тлумачачы, што толькі „паасобнымі працаўнікамі (Інстытуту) былі дапушчаны памылкі вялікадзяржаўна-ухіліскага характару (Вальфсон, Выдра).***) але гэта ні ў чым не зьмяняе сутнасьці справы: „вялікадзяржаўніцкія памылкі" ня цягнуць за сабою ніякай адказнасьці.

Гэтая „чыстка" яскрава паказвае, якое ёсьць сёньня адмоўнае бальшавіцкай улады да таго беларускага народнага актыву, які ў трудную хвіліну для бальшавікоў чынна стаў па іх баку. Яна ўскрывае грубую памылку нэкаторых бел. сацыялістаў, якія ў свой час казалі, што йдучы на'г і бальшавіцкім шляхам, можна дайсьці да поўнага сацыяльнага і нацыянальнага вызваленьня беларускіх працоўных масаў, хоць можа й цаною вялікіх народных мукаў. Гэтыя сацыялісты даказывалі, што бальшавізм ня ёсьць варожым беларускаму сацыяльна-нацыянальнаму адраджэньню і, што калі бальшавікамі тагды мала было зроблена для беларускай справы, дык толькі з віны самых сьведамых беларусоў, якія ўстрымліваліся з ус-

*) „Бальшавік Беларусі". Менск, лістапад 1935 г. № 14. Бач. 48—52.

**) газ. „Зьвязда" Менск, № 5 з 6.I. г.г.

***) Час. „Под знаменем марксизма". Масква, 1936, №1 — арт. Вальфсона і Н. Ільюшына: „Институт Философии Белорусской Академии Наук.

тупленьнем у камцартыю. Сёньня памылковасьць гэткага пагляду не падлягае крытыцы. Быўшаму сацыялісту-рэвалюцыянэру Ул. Ігнатоўскаму за актыўнае супрацоўніцтва з бальшавікамі прышлося расплаціцца сваім жыцьцём, іншыя-ж апынуліся на Салоўках, у Сібіры, або наагул далёка па-за межамі свае бацькаўшчыны.

Для ўзапраўднага сацыялістэ, добра разумеючага сутнасьць бальшавізму, як тагды, так і цяпер Савецкая Беларусь ёсьць толькі аб'ектам маскоўска-бальшавіцкага імпэрыялізму. *Р. Па-скі.*

---

## Сацыялізм і рэлігія

### (новыя плыні ў сацыялістычным руху Зах. Эўропы)

У далёкую мінуўшчыну адыйшлі тыя часы, калі перадавыя мысьліцелі першай палавіны XIX стагодзьдзя, якіх звычайна называюць утапістамі, стварылі свае сыстэмы хрысьціянска-сацыялістычнага сьветапагляду (Кабэ — „Узапраўднае хрысьціянства", Сэн-Сімон — „Новае хрысьціянства", Вэйтлінг — „Эвангельле беднага грэшніка", нарэшце Бюшэ з яго марамі аб сацыяльна-рэвалюцыйным каталіцтве), калі сацыялістычны рух у Заходняй Эўропе абапіраўся на рэлігійным пачуцьці абяздоленых, прыгнечаных і паняволеных працоўных людзей. Усё гэта, здавалася, аджыло, заняпала, пахавана ў нябыцьці. А між тым, побач з сучасным сацыялістычным рухам, у Заходняй Эўропе ўзрастае і пашыраецца хваля рэлігійнага сацыялізму.

Нова-пачынальнікам гэтага руху зьяўляецца Леангард Рагаз, які быў даўжэйшы час прафэсарам тэалёгіі цюрыхскага унівэрсытэту, але пасьля пакінуў прафэсарскую дзейнасьць і парваў усялякую лучнасьць з афіцыяльна-касьцельным хрысьціянствам. Як многалетні сябра швэйцарскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, Л. Рагаз выступаў з навучаньнем абновы сацыялізму на аснове першапачатковага хрысьціянства, калі ніхто спасярод сяброў апошняга нічога з свае маемасьці не уважаў за ўласнасьць, калі ўсё ў іх было супольным. Сацыялізм, ён казаў, зьяўляецца выпладам хрысьціянства; гэта ёсьць вера ў новае неба і ў новую зямлю, дзе пануе справядлівасьць, вера ў царства божае на зямлі. А калі хто верыць у царства божае на зямлі, то хіба той можа ня верыць у Бога? Таксама і хрысьціяне, якія вераць у Бога, ня могуць ня верыць у царства божае на зямлі, у новую зямлю, дзе пануе справядлівасьць. Узапраўдныя хрысьціяне ня могуць быць ворагамі сацыялізму, як і ўзапраўдныя сацыялісты ня могуць быць ворагамі хрысьціянства. Хрысьціянства і сацыялізм, спачатку як адзіная плыня навучаньня, разлучыліся, пайшлі рознымі шляхамі, заблудзіліся на гістарычным раздарожжы — сацыялісты перасталі верыць у Бога, а хрысьціяне перасталі верыць у царства божае на зямлі; з гэтага ўзьнікла вялікая шкода, як для хрысьціянства так і для сацыялізму. Але настаў час калі хрысьціянства і сацыялізм павінны злучыцца, зьліцца ў адну плыню, каб выканаць сваё вялікае месіянскае прызначаньне, — аднавіць сьвет Бога і чалавека. У гэтым, паводле Л. Рагаза, палягае найвялікшае заданьне сучаснай эпохі.

Рэлігійна-сацыялістычнае навучаньне Рагаза хутка пачало шырыцца і ў кароткім часе здабыло значны ўплыў у Швайцарыі, Фран-

цы, Бэльгіі, Галяндыі, Англіі, Нямеччыне і Аўстрыі; сёлета пачало шырыцца ў Чэхаславаччыне, дзе знаходзіць шмат прыхільнікаў і злучаецца з моцнай культурна-гістарычнай традыцыяй гусіцтва і чэскага брацтва; адбываецца падрыхтоўчая праца заснаваньня супалкаў рэлігійных сацыялістаў у Амэрыцы, Канадзе і ў Польшчы. У кожнай асобнай краіне рэлігійныя сацыялісты аб'ёднываюцца ў нацыянальныя супалкі, сябры якіх могуць належыць да розных сацыялістычных партыяў, але супалкі, як непартыйныя аб'еднаньні, захоўваюць сваю самастойнасьць. У Цюрыху знаходзіцца цэнтраля ўсіх нацыянальных супалак — Міжнародны Саюз рэлігійных сацыялістаў, на чале якога стаіць Л. Рагаз, ідэйны пачынальнік гэтага руху, рэдактэр першага рэлігійна-сацыялістычнага часапісу „Neue Wege" („Новы Шлях"), аўтар вызначнай кнігі „Von Christus zu Marx— von Marx zu Christus" (Ад Хрыста да Маркса — ад Маркса да Хрыста"). — У гэтай кнізе Рагаза, якая зьяўляецца вынікам яго жыцьцёвай працы, як прызнаецца сам аўтар, ваяўна выяўляецца асноўны і галоўны зьмест навучаньня рэлігійнага сацыялізму.

Рэлігійны сацыялізм, паводле Рагаза, — гэта сацыялізм, а калі не баімося гэтага слова, то камунізм у сваей найвышэйшай падобе, можна сказаць нават — у сваей Богам створанай падобе, як біблійны сацыялізм і камунізм, як сацыялізм і камунізм царства божага, як сацыялізм Хрыста. Гэта ёсьць сьвятая і буйная крыніца з божых гор, у якой усе плыні сацыялізму і камунізму, няхай аб гэтым ведама ці ня ведама, маюць свой пачатак і ў яе водах павінны ачышчацца і абнаўляцца, калі на сваім шляху раўнівай, далёка ад крыніцы, замуціліся і ўвабралі ў сябе атрутныя чужыя элемэнты. — Марксызм, нп., увабраў у сябе чужую для сацыялізму веру ў неабмежаную сілу матэрыі; гэта вера ў матэрыю, паводле Рагаза, зьяўляецца асноваю сьветапагляду буржуазнага мяшчанства, усяго капіталістычнага суспольства, з яго драпежнасьцю, сквапнасьцю, прагавітасьцю і поўнай нэгацыяй сьвятасьці чалавечай асабістасьці. Сацыялізм ня можа будавацца на веры ў матэрыю, але на веры ў духа. Сіла матэрыі ёсьць вялікая, але ў рашаючых мамэнтах выступае дух, як узапраўдны тварэц і герой гісторыі!

Абнаўленьне сацыялізму з духа ёсьць адно з найважнейшых пытаньняў сучаснасьці; гэта пытаньне паўстае непасрэдна ў лучнасьці з другім актуальным пытаньнем — абновай рэлігіі. Сацыяльны пераварот вымагае рэлігійнага перавароту. Толькі з рэлігійнае абновы можа вынікаць абнова сацыяльная. Дзеля гэтага: патрэбна новае разуменьне хрысьціянства, новая рэфармацыя, каб наблізіцца да разуменьня праўды божай.

Для рэлігійных сацыялістаў ня йдзе аб тое, каб з бібліі рабіць якую-небудзь сацыяльную або сацыялістычную праграму; не, ім ідзе аб гэта, каб выкрыць крыніцу божае праўды, знайсьці тое мейсца, скуль гэна крыніца выцякае. — Вось-жа: тое мейсца, паводле Рагаза, дзе знаходзіцца крыніца божае праўды — словы божыя ў бібліі якія трэба разумець па новаму, словы божыя ў Майсея і ў прарокаў, у Хрыста і ў апосталаў і ў тых, што сягаюць за межы біблійнай эпохі, — а тое мейсца, скуль гэна крыніца выцякае, гэта сацыяльнае пытаньне сучаснасьці, сацыяльнае забурэньне, сацыяльнае землятрасеньне. Гэта сам Бог ідзе ў буры й навальніцы. На гэтым мейсцы якраз і можна пачуць слова, якое жывы Бог кажа нашай

сучаснасьці, поўнагучнае слова, якое станецца целам.

Узыходзячы на шлях рэлігійнага сацыялізму, кожны, хто па гэтаму шляху намерваецца йсьці далей аж да найвышэйшых мэтаў, далучаецца да плыні, якая ад біблійных прарокаў і ад Хрыста пачынаецца і цячэ ў сьвет, як радасная вестка аб царстве божым. — Новае неба і новая зямля, дзе пануе справядлівасьць — адзіны шлях, які вядзе з рэлігійных і сацыяльных абцяжнасьцяў нашых дзён да новага дня Бога і чалавека. — Гэта ёсьць рэвалюцыя, якая надыходзе; найвялікшая рэвалюцыя нашай эпохі. Баёвы покліч гэтай рэвалюцыі — Хрыстос і Народ!

Няўхільны прыход Хрыстовай рэвалюцыі Рагаз бачыць ня толькі ў сучасных абставінах людзкой крыўды і несправядлівасьці, але і ў сучасным становішчы хрысьціянства і сацыялізму. — Сацыялізм распадаецца, ён кажа і шмат каму здаецца, што зусім занепадае. У рэчаістасьці гэта азначае, што ўзапраўдны сацыялізм яшчэ толькі надыходзе — распадаецца ў сваіх сучасных формах, але абновіцца і напоўніцца ў крыніцы божае праўды, стане рэлігійна-сацыялістычным вагаром абновы чалавецтва. Таксама і хрысьціянства распадаецца ў сваіх сучасных формах. Але і тут канец азначае новы пачатак, распад ёсьць папаўненьнем. Хрысьціянства і сацыялізм злучаюцца і зьліваюцца ў адну магутную плынь, каб зьмененыя і злучаныя ўступілі ў новы сьвет — і зарунее тагды пад новым небам хрысьціянства новая зямля сацыялізму!

*

Гэткія ёсьць маральна-этычныя асновы навучаньня рэлігійнага сацыялізму.

Няма сумніву, у абставінах рэакцыі, якая паўстала ў Эўропе ў форме розных коляраў і масьцяў фашызму, — рэлігійны сацыялізм мае вялікае культурнае і сацыяльна-палітычнае значаньне: прабуджае веру ў сацыялізм, як у мэсыянскую ідэю абновы ўсяго чалавецтва; гэта ёсьць рэлігійнае прадчуваньне надыходзячай буры...

*—ш*

---

Друкуючы выш. пад. артыкул з чыста інфармацыйнай мэтай, мы мусімо адцеміць, што ў ніякім выпадку не зьяўляемся якімі-небудзь прыхільнікамі злучэньня рэлігійнасьці (хоць-бы й архі-хрысьціянскай!) з сацыялізмам. Сацыялізм імкнецца стаць новай формай арганізацыі палітычных, гаспадарчых і культурных узаемаадносіньняў грамадзянства, як і наагул стаць для чалавецтва новай філязофіяй жыцьця, а гэтым самым зрабіць непатрэбнымі ўсе векавыя гістарычныя рэлігіі. Але паскольку не настала яшчэ сацыялізацыя ўсіх грамадзкіх узаемаадносін, паскольку яшчэ й некаторыя сацыялісты ня ёсьць да канца сацыялістамі, пастолькі мы мусімо прызнаць, што рэлігія можа быць толькі прыватнай справай чалавека, але ў ніякім выпадку якімсь нарматыўным сучыньнікам грамадзкага жыцьця.

*Рэдакцыя.*

---

**Падтрымлівайце сваю сацыялістычную прэсу!**

---

# Індустрыялізацыя, як чыньнік вызваленьня каленіяльных народаў СССР.

Тэзісы дакладу Д ра Т. Грыба, які быў прачытаны на пасэджаньні Украінскага Сацыялёгічнага Інстытуту ў Празе дня 15.II. 1936 г.

I. Галоўная сутнасьць каленіялньага становішча прыгнечаных і паняволяных народаў палягае ў тым, што яны абернуты ў няпоўныя суспольствы; гэта ёсьць плябэйскія народы, народы — клясы працоўнага сялянства. У такім становішчы знаходзіліся аж да рэвалюцыі 1917 году ўсе так званыя „инородцы“ ці-то „окраинные“ народы Расіі, а ў тым ліку беларусы і украінцы.

II. На Беларусі, а таксама на Украіне дый у іншых каленіях Расіі, ня было вывінутай фабрычна-заводзкай прамысловасьці; пераважаў дробны рамесьніцкі выраб, дзеля чаго ў местах была нязначная і зусім слабая праслойка фабрычна-заводзкага пралетарыяту. Гэта былі аграрныя краіны з прымітыўнай тэхнікай землеробства. Усе кіруючыя вышкі гаспадарчага, палітычнага і культурнага жыцьця знаходзіліся ў руках фэадальна-абшарніцкай буржуазіі, якая ў супалцы з праваслаўным аўтарніцтвам і вярхушкай заманенага мяшчанства, займаючы ўпрывілеяванае становішча ў Расіі, забясьпечанае рускім царызмам, зяўлялася моцнай апораю ўсерасійскага вялікадзяржаўніцтва; апрача таго, уладаючы вагромністымі абшарамі зямлі, трымала сялянства ў сацыяльным рабстве, галоце і культурнай цемры.

III. Змаганьне сялянства за сацыяльнае вызваленьне з капцюроў фэадальна-абшарніцкай буржуазіі стварала аснову нацыянальна-вызвальных рухаў; гэта змаганьне дасягло ўзвышша ў магутным уздойме рэвалюцыі 1917 году, калі сялянства здабыло сабе зямлю і волю. Аднак, перамагаючы фэадальна-абшарніцкую буржуазію, не змагло сялянства замацаваць сваіх рэвалюцыйных здабычаў: ня мела апоры ў местах, якія знаходзіліся ў руках адстала-рэакцыйнай і зрусыфікаванай дробнай буржуазіі.

IV. Рэвалюцыя прайшла ўжо некалькі ступеняў разьвіцьця: ваенны камунізм, нэп, дзяржаўны капіталізм. А далей што? — У сучаснасьці ўзмоцнена праводзіцца індустрыялізацыя: у местах будуюцца фабрыкі й заводы; павялічваецца лік фабрычна-заводзкага пралетарыяту; у шэрагі пралетарыяту ўліваюцца новыя сілы — маладыя і актыўныя сілы вёскі, якія нясуць з сабой у месты сваю родную мову і культуру; месты зьмяняюць сваё культурнае аблічча.

V. Рост індустрыялізацыі вядзе з усей няўхільнасьцю да ўзьніку моцных прамысловых цэнтраў; нацыянальна-вызвальныя рухі набываюць новую эканамічную базу і апору ў местах.

VI. Калі з адменай нэпу і ўвядзеньнем дзяржаўнага капіталізму ўсерасійскія вялікадзяржаўнікі пад шыльдам кампартыі намерываліся зьнішчыць усе культурныя і сацыяльныя асаблівасьці прыгнечаных і паняволеных народаў СССР, каб стварыць адзін „савецкі народ“ з адзінаю „савецкай мовай“, на якой гаварыў і пісаў Ленін, дык дапялі зваротных вынікаў: яшчэ больш узмацнілі нацыянальныя антаганізмы і сацыяльныя супярэчнасьці. — Рэвалюцыя прадаўжаецца.

# Адзіны фронт ТБШ і БІГіК.

На пачатку г.г. ў нашым жыцьці сталася вельмі цікавае зьявішча: дзьве культурна-асьветныя арганізацыі, „Таварыства Беларускай Школы" і „Беларускі Інст. Гаспад. і Культ", адважыліся першы раз за ўвесь час свайго існаваньня на супольнае выступленьне ў справе беларускага школьніцтва. Выступленьне гэтае тым больш ёсьць цікавым, што адбылося яно зусім нечакана для грамадзянства, без папераджаючай падрыхтоўкі ў прэсе, публічных дакладах Адначасна ўтварыўся для вядзеньня скаардынаванай акцыі за беларускую школу — Школьны Сэкрэтарыят.

У дасюляшняй практыцы нашага жыцьця падобнае выступленьне ёсьць зусім нябываным зьявішчам, якое прыходзіцца толькі вітаць, як і наагул кожнае салідарнае выступленьне беларускіх арганізацый, пядыктаванае жыцьцёвымі па трэбамі нашага народу.

Названае выступленьне мае, аднак, свае няяснасьці. Перадусім няма ведама што змусіла гэтыя арганізацыі да такога шагу. Беларускае грамадзянства мае права выясьненьня гэтага дамагацца, паскольку ТБШ і БІГіК ёсьць грамадзкімі арганізацыямі. Гэты мамэнт не высьвяне ані іх дэклярацыя з дн 28, ані адозва з дн. 29.II гг. Нічога ня зроблена ў гэтым наирамку да сяньняшніх дзён

А варта было б! Бо-ж не ад сёньня цатуецца заняпад культурна асьветнай працы ў нашым краі, не ад сёньня шырыцца й анальфабэтызм Усё гэта ня ў меншай меры чым цяпер., мелі мы і ў тыя часы, калі абедзьве гэтыя арганізацыі шмат мацней сябе пачувалі, калі беларусы мелі сваіх прадстаўнікоў у заканадаўчых палатах, калі наагул беларускае культурнае жыцьцё было больш інтэнсыўнае. І тады аднак, чамусьці ня было ніякае мовы аб супольным беларускім школьным фронце. Наадварот, тагды паміж ТБШ і БІГіК вялася заядлая варажнеча, якая вынікала, магчыма, з іх асноўных засадаў Дапускаем, што БІГіК, знаходзячыся пад беспасрэдным уплывам бел. ксяндзоў, будзе й надалей шырыць, як і шырыў, культуру ў духу разуменьня каталіцкага хрысьціянізму, як думаем, што й ТБШ ня зыйдзе з шляху рэалізацыі культурнага поступу, будаваньня культуры на чыста сьвецкіх засадах, не адмовіцца ад дамаганьняў выэлімінаваньня ўсялякіх уплываў царквы на школу. Дык, прыймаючы ўсё гэта пад увагу, нельга не жадаць ад заангажаваных арганізацый сфармуляваньня іх адносіньня да справы арганізацыі як беларускага школьніцтва, так і наагул беларускай культуры пры сучасных умовах.

Гэта было-б адначасна адказам і на іншую няпэўнасьць — ці супольная акцыя за беларускую школу ёсьць зьявішчам трывалым, абліченым на даўжэйшую мэту, ці яна мае толькі сэзонны характар. іч

---

# Голас б. Старшыні Зьезду Случчыны аб Слуцкім Паўстаньні.

Пазнаёміўшыся з гістарычнымі дакумэнтамі, якія адносяцца да Слуцкага Паўстаньня і заслухаўшы некалькі дакладаў па гэтаму пытаньню ўдзельніка Паўстаньня гр. Бусла, Рэдакцыя нашае часопісі ахвотна ўзяла на сябе абавязак знаёміць грамадзянства з гэтай вялікай беларускай гістарычнай падзеяй. Уважалася, што факт Слуцкага Паўстаньня ставіць нас беларусаў на адну плошчу з перадавымі народамі СССР (грузінамі, украінцамі), якія пасьля развалу расійскай імпэрыі хоць і не змаглі ўтрымаць сваю палітычную незалежнасьць, то ў кожным выпадку вялі за яе ўпорнае змаганьне. Мы на'т уважалі, што з гісторыяй Слуцкага Паўстаньня варта было-б знаёміць ня толькі свае грамадзянства, але й іншыя народы. Фактам барацьбы за сваю незалежнасьць беларусы маглі-б здабыць толькі пашану.

Нажаль, не заўсёды й ня ўсё ў нас робіцца для таго, каб умацаваць свае пазыцыі. Беларусы часта, сьведама ці ня сьведама, ідуць па лініі сябезьнішчаньня. Штосьці падобнае праявілася ў некаторых кругох беларускага грамадзянства і ў адносіньні да Слуцкага Паўстаньня Хадэкі паставіліся да яго нэгатыўна. Нэгавала яго і бел. санацыйная прэса А ў ня так даўно выданай брашуры кс. Ад. Станкіевіча, лідэра бел. хадэцыі (п. н. „Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня") знаходзім наступнае: „У канцы 1920 г — беларускае Слуцкае паўстаньне проціў бальшавікоў: арганізавала яго, пры падтрыманьні польскага гэнэ-

ральнага штабу, беларуская Найвышэйшая Рада". Што пабудзіла кс. Станкевіча да такога цьвэрджаньня, якія ён меў на гэта дадзеныя — нічога няведама

Каб дакладней высьветліць гэтую справу, рэдакцыя „Золака" зьвярнулася да б. Старшыні Зьезду Случчыны і ўдзельніка Паўстаньня інж. В Русака з просьбай сьцьвярджэньне сапраўднага характару Слуцкага Паўстаньня. Гр. В. Русак на ўспомненым Зьездзе ў 1920 г. быў выбраны да Рады Случчыны, якая тагды на тэрыторыі Случчыны зьяўлялася адзінай вышэйшай уладай і якая кіравала Паўстаньнем. Гр В. Русак надаслаў нам абшырны ліст, які з тэхнічных прычын цэлком тут надрукаваць ня маем магчымасьцяў, а падаем толькі зьмест яго й некаторыя цытаты.

Аўтар выказвае ў лісьце пажаданьне, каб удзельнікі пэўных гістарычных падзеяў нядаўных дзён забіралі голас у справе гэтых здарэньняў, бо часта гісторыкі літэратары, пішучы аб фактах недалёкай нашай мінуўшчыны, або зусім з імі незнаёмы, або надаюць ім фальшывае асьвятленьне. Асабліва важным уважае гр. В. Русак знаёмства нашай моладзі з бел. недалёкай гістарычнай сапраўднасьцяй.

Адносна самога Паўстаньня б. Старшыня Зьезду падае наступнае: „Пасланец (жанчына), які прабраўся з Менску праз два фронты, сказаў, што Менск чакае на падзеі на мясцох і што кіраўніцтва пры даных умовах з аддаленага цэнтру немагчыма". Напярэдадні Паўстаньня „ішла ўнутраная арганізацыйная праца, каб не дапусьціць у кіраўніцтве Паўстаньнем авантурызму". „На выпадак, калі пратэст будзе мець значэньне (рэч ідзе аб пратэсьце перад цэнтральнымі бальшавіцкімі ўладамі — рэд), то падпарадкавацца Менскаму беларускаму цэнтру". У адношаньні-ж да іншых беларускіх цэнтраў гр В. Русак зазначае, што слуцкімі беларускімі ўладамі пастаноўлена было, пры азброеным змаганьні навязаць зносіны з Урадам Беларускай Народнай Рэспублікі ў Коўне і з „Найвышэйшай Радай" у Варшаве, каб праз іх падаць пратэсты заграніцай і знайсьці падтрыманьне ў няроўным змаганьні. Для гэтых Урадаў дзьверы былі адчыненыя..., каб выканаць сваю гістарычную місыю.. Ніякіх загадаў і распараджэньняў ад іх (Урадаў — рэд) не паступала і ніякіх дырэктываў ніхто Радзе (Радзе Случчыны — рэд.) не даваў. Яна выпаўняла волю насельніцтва, і толькі".

З пададзеных вытрымак відаць, што Слуцкае Паўстаньне (як гэта ў свой час у нас ужо гаварылася!) было арганізавана самымі Случчакамі і вялося пад іх уласным кіраўніцтвам, а не „Найвышэйшай Рады" дый яшчэ з дапамогай польскага гэнэральнага штабу, як гэта цьвердзіць кс. Станкевіч.

Чаго хацеў дабіцца кс. Адам Станкевіч сваею выдумкай пакуль што трудна сказаць.

Адно толькі ясна што гэтай выдумкай кс. Станкевіч кінуў агідны плявок на сьвятую справу беларускага народнага вызваленьня.

---

# Некалькі спасьцярог аб беларускай прэсе.

Ад пэўнага часу даецца заўважыць, што ў нас для грамадзка-палітычных літэратурных і інш зьявішчаў пачынаюць шукаць меркаў, апэнкаў, пачынаецца г. зв крытыка і на‘г з гкрэсьленым падыходам. А гэта ўжо шмат значыць! Людзкі поступ пачаўся фактычна тагды, калі людзі навучыліся мерыць, пароўніваць розныя рэчы, зьявішчы, ацэньваць іх, і пасьля ўжо, удасканальваць. Трэба спадзявацца, што і ў беларускім грамадзкім жыцьці закарэніцца гэта цэнная рыса людзкога духа і паволі пачнецца рух у кірунку ўдасканаленьня, поступу. Аднак, узапраўдны крытычны падыход да зьявішчаў грамадзкага або літэратурнага характару ў беларускай прэсе сустракаецца яшчэ даволі рэдка, найбольш — гэта намаганьні маладых сілаў. Старое-ж пакаленьне працаўнікоў-дзеячоў, з усімі іх прыбудоўкамі, і надалей ідзе раз праторанай дарогай.

ца". У гэтай газэце, калі што цьвердзіцца, дык, ясная рэч, без намаганьня даказваць пастаўленае цьверджаньне. — тым ня можа быць мейсца для якіх небудзь развважаньняў, як і прыстала для органу аўтарытатыўнай думкі. Калі-ж хто адважыцца выявіць адменны пагляд, заняць іншую пазыцыю, чым хадэцкі сьведрыён, дык хай сьцеражэцца — „Бел Крыніца" не пашкадуе ані найагіднейшай лаянкі, ані граз'.

Апошні спосаб змаганьня прыжыўся ў нас ужо даўно. Яго традыцыя цягнецца яшчэ ад часоў „грамадаўшчыны" і асаблівага размаху дасягае ў пару Акінчыцкага палянафільскага бытаваньня, завяршаючыся мамэнтам зьяўленьня брашуры „Чаму гэтак сталася".

Праўда, „Бел. Крыніца", здаецца, яшчэ не пасьпела падняцца на такое узвышша, як у свой час Акінчыц, але й яна мае моцную прывычку да нядаўнай прошласьці.

У адным з нумароў „Бел Крыніцы" зьявілася на вічым неабапертае цьверджаньне, што зьмест папярэдняга нумару „Золака" ёсьць дэфэнзыўны і што „Золак" маўляў, прадаўжае тую работу, якую праводзіў свайго часу гр. Сарока ў час. „Беларусь Працы". Але ў чым канкрэтна выяўляецца „дэфэнзыўнасьць зьместу" „Золака", „Бел. Кр." не падала (і ня зможа падаць!) ніякіх дадзеных. А гэткую галаслоўнасьць мы йнакш назваць ня можам, як толькі манай і інсынуацыяй. „Золак" выходзіць ужо ня першы год, мае свой строга акрэсьлены напрамак і з яго ня сходзіць. Калі хадэцкі орган змог знайсьці „дэфэнзыўнасьць" у апошнім № „Золака", то чаму ня было пачаць падобнага шуканьня шмат раней? Апошні нумар не зьяўляецца нейкім выключэньнем — ён таго-ж самага характару, што і ўсе папярэдніяї..

Марныя намаганьні парадніць нас і з „Беларусьсю Працы". Гэткі выбрык разьлічаны толькі на нязьмерную глупоту шэрага натоўпу, але ня больш. Тут трэба зрабіць адваротнае — злучыць дзейнасьць „Бел. Працы" з дзейнасьцю бел. хадэцыі, з якою гр. Сарока, рэдактар „Беларусі Працы", амаль да апошніх часоў быў у в. цеснай сувязі. Але ці толькі з гр. Сарокай былі хадэкі „блізкімі"? А як гэта было з гр. Акінчыцам?!. А што гэта за „кантакт" рэдактара „Бел. Крыніцы" гр. Пазьняка з яго вайсковым аднафамільцам, на што так нядвузначна нацякаецца ў аднадзёўцы „Выясьненьні" (Скандальная справа з вывядамі аб Нац. Камітэце)?!

Акінчыцкі „Голас Праўды", яго браш. „Чаму гэтак сталася" і „Беларусь Працы" разам з „Бел. Крыніцай" выяўляюць сапраўднае сац.-палітычнае і маральнае аблічча беларускай рэакцыі. — Закід-жа „Бел. Крын." „Золаку ў дэфэнзыўнасьці ёсьць толькі для адводу вачэй, каб сьпіхнуць віну з сваёе хворае галавы на здаровую!

## Жыдоўскі Работніцкі Кангрэс барацьбы з антысэмітызмам.

Дня 13 чэрвеня г.г. у мэтах барацьбы з антысэмітызмам адбудзецца ў Варшаве вялікі Кангрэс жыдоўскіх работнікаў. Як бачым, жыдоўскі працоўны сьвет рашыўся на шырокае арганізованае змаганьне супраць усялякага гнёту над жыдоўскай народнасьцяй.

Жадаем Кангрэсу пасьпеху ў працы і лічым, што гэтае выступленьне зьўляецца добрым прыкладам і для нашых працоўных масаў.

### НА ПРЭСАВЫ ФОНД „ЗОЛАКА"

атрымана: ад Гуртка прыхільнікаў незалежнае прэсы ў м. зл. 3; ад інш. грамадзян у Вільні зл. 8.60; ад У. Дунца зл. 1, М. Бакача зл 1.

Рэдакцыя „ЗОЛАКА" рыхтуе да друку брашуру п.н.

# „Гісторыя Сацыялізму"

(кароткі нарыс)

Рэдактар-выдавец А. Аніська. Адрас рэд.: Вільня, Полацкая 18-3.

Друк. І. Баеўскага. Вільня, Татарская вуліца 13.